Працоўная Грамада

У адзінстве сіла!

№2(2) сакавік 2000 года

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ – ГЭТА...

Незалежнасць – гэта калі ты з"явішся на свет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

Незалежнасць – гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумент, што ты сапраўды нарадзіўся і цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумент, а не выцягне са стала «справочник личных имен народов СССР» і не будзе, размахваючы ім, істэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблем назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам – не можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое имя Григорий).

Незалежнасць – гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая падабалася табе ў дзіцячым садзе, — на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, — на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць маламу малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, — на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме не трэба будзе ўсё лета збіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія не тое каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата і мама, а проста ніколі пра гэта не думалі, бо выраслі пры інтэрнацыялізме. І гэтыя заявы не трэба будзе губляць тры разы дырэктару і два - сакратарцы, і ў першы вераснёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што «год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы», а прыйшоўшы ў свой клас, не даведаешся, што, дзякуючы няўхільнаму клопату партыі і ўрада, у вас на ўвесь клас толькі адзін буквар і дзве «матэматыкі» на роднай мове.

Незалежнасць – гэта калі твая дружына не будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мяснікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мяснікоў.

Незалежнасць – гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскара, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе і запытае, што значыць слова «імавернасць», і ты па-французску растлумачыш яму...

Незалежнасць - гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву і прыбіраць тэрыторыю «вот отсюда и до обеда». У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе «бульбашом», а твайго сябра – «чарнажопым» за тое, што вы думаеце і гаворыце ў сне па-свойму, а выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі не будуць у працэсе гэтай падрыхтоўкі рабіць табе «велосипед», і табе ніколі не загадаюць вастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасць – гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'еце кавы насупраць палаца Шонбрун, і ведаеш, што перад вашаю вандроўкаю ніхто не будзе высвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык з якой мэтай.

Незалежнасць – гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі і ведаеш, што паставіш там свечку й пакладзеш кветкі, а не станеш удзельнікам выпрабавання балончыкаў з нервова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумавага дручка.

Незалежнасць – гэта калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі,а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдскую бітву, якая ўратавала твой народ ад смерці, і кажуць праўду пра ўладу, што растраляла твайго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.

Незалежнасць – гэта калі да цябе завітае спявак з Нью-Йорка, і ты вып'еш з ім добрую чарку вішнёўкі, і пасля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі і каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасць – гэта калі ты пазбаўлены магчымасці пачуць, як твой прэзідэнт вучыць з экрана суайчыннікаў: «Хто как хаціт, той так і гаварыт», бо твой прэзідэнт – чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае...

Незалежнасць – гэта калі ніхто не страшыць цябе, што твой народ не зможа выжыць без вялікага старэйшага брата, бо не мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галандцаў ці бельгійцаў, якія не маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасць – гэта калі раптам высветліцца, што разумныя людзі ёсць і ў нас, і калі – крый Божа! — выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, не трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў...

Незалежнасць – гэта...

Незалежнасць – гэта калі ад нараджэння да скону пачуваешся сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо іначай проста не варта жыць.

**Уладзімір АРЛОЎ**
*Люты, 1990 г.*

## 25 САКАВІКА

*Ён прыйдзе, гэты дзень!*
*Ён не прыйсці не можа!*
*Ён прыйдзе –*
*й загудзе вясновы буралом,*
*пакрышыць, размяце,*
*раскідае, зніштожыць*
*усё, што нам шляхі да хаты замяло!*
*Ці чуеце?*
*А б ім шасціць быльнёг аселіц,*
*пяюць вятры у лазе,*
*і звоніць крыгаў лёд.*
*Ахвяраю крыві,*
*а Слова стане Целам,*
*і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны Год.*
*Няхай бярэмя він*
*прыгнула нас, і крылы апалі,*
*й хлеб чужы нясмачны і важкі,*
*няхай нас апавіў*
*тугой агорклы вырай, -*
*трывайма!*
*Ён ідзе – Вялікі Сакавік!*
*ідзе... й пад ногі рунь*
*яму кладзецца, таюць*
*снягі, на поплавах зяленіцца трава...*
*Радзіма!*
*Беларусь*
*Каханая, святая!*
*Багаславі нас жыць*
*і веру захаваць!*

**Наталля АРСЕННЕВА**
*1950*

# 25 Сакавіка – Дзень Волі



Шаноўныя грамадзяне!Сардэчна віншуем з днём абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі!

Няхай моцнае здароўе спадарожнічае Вам праз доўгія гады жыцця!

Будуючы незалежную дэмакратычную Беларусь, мы ствараем умовы для нармальнай будучыні.

Жадаем плённай працы дзеля роднай Бацькаўшчыны!

Рэдакцыя

**Чытаючы газэту «Наша Ніва»**

*Лісты ў рэдакцыю*

## ЗАЙЗДРОШЧУ ЧАЧЭНІІ

Я ненавіджу расейцаў і зайздрошчу Чачэніі. Ня ведаю дакладна, калі гэта пачалося. Зараз гэта ўва мне сядзіць крывавым комам, які патрабуе выйсьця. А выхад адзін – дзейнічаць, бо слова ўжо ня дзейнічае, бо яно пэўна толькі ў Бога.

Я жанчына, архітэктар па драўляным дойлідстве. Я люблю дрэвы і ўсё тое, што робяць рукі чалавечыя ў згодзе з прыродай і дазволам божым. Знішчыць лес і згвалціць народ – гэта тое самае.

Калі мяне схапілі ў Курапатах, на тамтыя Дзяды, пасадзілі ў камэру на Прылуцкай, на наступны дзень чатыры гадзіны вазілі невядома дзе ў спецшафе бяз вокан пад гукі «чісто рускіх» радыё «Альфа» ці то «Біэй». Мяне гвалтавалі маральна – у пастарунку, калі распраналі дагала, апісваючы мае рэчы, у судзе, калі судзьдзя ніяк ня мог зразумець, што за месяц такі, у якім я нарадзілася – студзень. Кожны дзень гвалтуюць у транспарце, калі крывяць расейскімі насамі на пытаньні ці адказ па-беларуску. Учора прылюдна старая расейка згвалціла нашу жанчыну, якая заступала ёй дарогу ў тралейбусе.

— Понаехалі, деревня, жізні от вас нет.

А наша толькі ціхенька ёй адказвала – «прабачце, калі ласка, я хутка выйду». Так і выйшла са словамі – «прабачце, калі ласка». А тая, старая – «деревня! алкоголічка!». І я не здолела расквасіць ёй нос! Яны, расейцы, згвалцілі нашых дзяцей, якія цяпер саромяцца «деревенской» мовы, мовы сваіх бацькоў. Згвалцілі ўсіх беларускіх жанчын, самых прыгожых у сьвеце і самых працаздольных. Згвалцілі нашых мужыкоў, самых лагодных у сьвеце, што тыя ня могуць абараніць сваіх жанчынаў. Абразілі мову! Зьнішчылі культуру і гісторыю. Жывую крыніцу пераўтварылі ў кріницу. Яны, расейцы, згвалцілі нашы імёны і прозьвішчы, назвы гарадоў і вёсак.

Калі Бог зробіць сьпіс усяго згвалчанага і зьнішчанага на маёй Радзіме? Я ведаю, хто такія расейцы, і таму я ведаю, што робіцца ў Чачэніі, і я ёй зайздрошчу.

**Т. Судзілоўская, Менск,** («НН» ад 13 сакавіка)

## ПА ЗАКОНАХ ПОДЛАСЬЦІ

Судзьдзя Марыя Фёдарава апраўдала выдавецтва «Праваслаўная ініцыятыва», што выпусціла з друку антысэміцкую кніжку «Вайна па законах подласьці». Матэрыялы, якія ўтрымлівае выданьне, яна палічыла зьвесткамі, «што носяць навуковы характар і мусяць ацэньвацца Акадэміяй Навук». Прадстаўнікі жыдоўскай грамады з гэтым не пагадзіліся. «Зь якога гэта часу адкрыты заклік «Бі жыдоў, ратуй Расею» займеў навуковы характар?» – проста ў залі суду абураўся Міхаіл Бурштэйн, старшыня Саюзу габрэйскіх вэтэранаў і інвалідаў вайны, адзін са спазыўшчыкаў. «Мы спадзяёмся, што гэтае рашэньне было навязанае зьверху, а не прынятае паводле сумленьня судзьдзі», — зазначыў сп. Бурштэйн. Дырэктар «Праваслаўнай ініцыя-тывы» Чартовіч сказаў мне, што і мітрапаліт Філарэт паганіў выдавецтва за кнігу. «Чаму ж тады не забараніў яе выдаваць?» – зьдзіўляецца сп. Бурштэйн. Жыдоўскія арганізацыі маюць намер абскардзіць рашэнне судзьдзі.

На судзе прысутнічалі пяцёра фашыстаў з РНЕ, у формах са свастыкай на рукавах – стаялі ў калідоры, бо ў залі не ставала месца. Міліцыянты безь ніякага прапусьцілі іх. Вэтэран вайны, былая лётчыца Ганна Пятрова падышла да іх і стала ганіць, што яны носяць гэтую форму са стылізаванай свастыкай. «Гэта наша справа», — адказалі яны ёй. «Дык што, вы мо й забіваць нас будзеце, як фашысты?» – спыталася, жахнуўшыся, жанчына. «Сёньня – не, а неўзабаве – так», — адказалі ёй.

Спазыўшчыкі мяркуюць, што, значыць, адказчыкі тым ці іншым чынам зьвязаныя з РНЕ, раз нехта гэтых баявікоў паклікаў.

**Барыс Тумар**

(«НН» ад 13 сакавіка)

## КАНЕЦ ІЛЮЗІЯЎ

Менчукі ў суботу не пазналі свайго праспэкту Скарыны. У горадзе дзяжурылі бронетранспарцёры з кулямётамі напагатове на вежках – пяць на пл. Незалежнасьці, два на пл. Перамогі, два на пл.Якуба Коласа, два ля Акадэміі Навук. На плошчах Перамогі і Незалежнасьці стаялі вялізныя вадамёты. Каля 40 спэцгрупаў з сабакамі гатовыя былі прыйсьці на дапамогу кулямётчыкам і вадамётчыкам. Вуліцы Чырвоная, Якуба Коласа, праспэкт ад прахадной заводу Леніна да пл. Незалежнасьці былі ачэпленыя экіпаванымі салдатамі ўнутраных войскаў – праз кожныя 12 мэтраў стаяў салдат. Вялізныя сілы вайскоўцаў і міліцыянтаў стаялі напагатове ў дварах на Залатой Горцы, ля

## *Швецкая мадэль устойлівага развіцця*

Менавіта гэтымі словамі пачаў сваё апавяданне пра працу муніціпальнай бібліятэкі Трэлеборга яе дырэктар - Крысціян Гіссельквіст, калі беларуская дэлегацыя пачала знаёмства з бібліятэкай. Безумоўна, спадар Крысціян з гонарам казаў пра працу сваёй установы, якая зрабіла самае вялікае ўражанне на беларусаў.

Пабудаваная 15 год назад, бібліятэка займае плошчу каля 1600 кв. метраў ( гэта нашых 16 сотак!). Культурны асяродак Трэлеборга абсталяваны сучаснай тэхнікай: кампьютэрамі для супрацоўнікаў і чытачоў, трыма ксераксамі для капіравання неабходных артыкулаў. Маецца міні-кафэ, дзе чытачы маюць магчымасць адпачыць - іх абслугоўваюць інваліды, якім камуна прадстаўляе магчымасць зарабіць невялікія грошы. Дарэчы, калі мы паўторна завіталі ў бібліятэку, то нас сустрэла перакладчыца ў інваліднай калясцы - таксама прыклад гуманнасці швецкага грамадства.

**«Бібліятэка павінна выклікаць жаданне да новай сустрэчы»**

У бібліятэцы Трэлеборга пастаяннымі чытачамі з.яўляюцца 27 (!)тысяч з 35 тысяч жыхароў камуны. Для іх карыстання маецца літаратура больш 80 тысяч найменяў на 16 мовах свету, маецца таксама спецыяльная літаратура для інвалідаў па зроку і слыху. Да ўсёй гэтай літаратуры доступ абсалютна адкрыты - для лепшага знаходжання раздзелаў яны робяць простыя, эстэтычна прывабныя указальнікі, якія бачны здалёк. Для таго каб бібліятэка была новай, нечаканай штогод робіцца некалькі перамешчэнняў раздзелаў, а таксама замена эстэтычнага афармлення, якое робяць яе супрацоўнікі без запрашэння мастакоў і дызайнераў.

Асаблівая увага надаецца працы бібліятэцы з дзецьмі. Спецыяльная частка бібліятэкі прызначана для сустрэч з вучнямі, дзе маецца адмысловая мэбля і дызайн, а гэтыя сустрэчы адбываюцца кожны дзень і не адна. Каля гэтай часткі размешчан вялікі куфэрак, у якім размешчана літаратура для немаўлят. Як толькі нараджаецца трэлеборжац, яго бацькоў разам з дзіцяці спецыяльным запрашэннем завуць у бібліятэку для сустрэчы. Супрацоўнікі бібліятэкі праводзяць гутарку аб развіцці любві ў дзіцяці да чытання, аб тым як гэта трэба рабіць, а потым дастаўшы вялізны ключ з моцным рыпеннем адкрываюць куфэрак з якога дастаюць набор маляўнічых дзіцячых кніг – падарунак мэрыі немаўляці. Вось і думайце - хто самы чытаючы народ...

Сустрэча са спадаром Крысціянам змяніла нашы ўяўленні аб магчымасцях бібліятэкі, захацелася сустрэцца з ім зноў, прэзентаваць бібліятэцы кнігу аб Беларусі. Безумоўна, такім падарункам стала святочнае выданне паэмы «Тарас на Парнасе» на беларускай, рускай і ангельскай мовах. Няхай і ў Трэлеборгу ведаюць шэдэўр беларускай паэзіі, пазнаёмяцца з нашай літаратурай.

**Леанід Гаравы**

*(Працяг будзе)*

# Стратегия для Беларуси

18 марта на международной конференции, которая происходила в Минске, произошло долгожданное обсуждение Плана национального спасения , представленного под официальным названием «СТРАТЕГИЯ ДЛЯ БЕЛАРУСИ. Концепция национального развития». Этот проект был разработан по предложению представителей КНГ-ОБСЕ профессиональными экономистами, юристами, политологами в составе рабочей группы под руководством Мечислава Гриба, председателя Национального Исполнительного Комитета, председателя Верховного Совета РБ 12 созыва , первого заместителя председателя Белорусской социал-демократической партии «Народная Грамада». Представители Администрации президента, Министерства финансов, всех посольств, политических партий вмести с авторами проекта после многочасовой дискуссии одобрили предложенные подходы. Редакция «Працоўная Грамада» будет вести выборочную публикацию «СТРАТЕГИЯ ДЛЯ БЕЛАРУСИ» с её первой части «Беларусь сегодня». Заинтересованным читателям можем представить данный труд для полного ознакомления и высказывания своих предложений, ибо началось общественное обсуждение проекта.

*Паважаныя чытачы! Друкуючы артыкул В. Старыкава «У них был свой архипелаг ГУЛАГ», мы прапануем вам далучыцца да збора ўспамінаў ахвяраў палітычных рэпрэсій і дасылаць матэрыялы ў рэдакцыю для друкавання.*

**15** сакавіка на Гарадоччыне адбыліся сустрэчы з вядомым паэтам, грамадскім дзеячам Генадзем Бураўкіным. Генадзь Бураўкін вядомы сваімі лірычнымі, грамадскімі вершамі. Ён нямала год аддау станаўленню беларускага тэлерадыёвяшчання, у 90-х гадах працаваў прадстаўніком незалежнай Беларусі ў ААН, сёння працуе першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Шаноўны паэт наведаў Віцебшчыну па запрашэнню старшыні абласной Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Іосіфа Навумчыка. Удзячныя чытачы ў Езярышчы, Вышадках, Гарадку з вялікім задавальненнем пазнаёміліся з творчасцю Бураўкіна, даведаліся пра адносіны госця да грамадска-палітычнага становішча на Беларусі, мелі магчымасць атрымаць аўтографы сучаснага класіка беларускай літаратуры. На кожнай сустрэчы Г.Бураўкін выказваўся аб неабходнасці ведання беларусамі замежных моў:

- Адной з правільных думак Карла Маркса была думка аб тым што колькі моў ведае чалавек, то столькі раз ён чалавек. Мой старшы сын працуе ва Ўніверсітэце Культуры, дзе займаецца праблемамі матэматычнага аналіза гісторыі культуры з дапамогай вылічальнай тэхнікі. Сваім студэнтам спачатку прапануе выбраць мову выкладання. Звычайна група падзяляецца амаль напалам паміж беларускай і рускай мовамі выкладання і сын прапануе выкладаць па-беларуску, бо гэта для яго зручней. Праз паўгода для рускамоўных студэнтаў наша мова перастае быць незразумелай. І выкладчык прапануе здаваць экзамен на любой з моў, якія ён ведае: беларускую, рускую, ангельскую, нямецкую.

Уявіце сабе наколькі беларусы былі б эдукаванай нацыяй, здольнай рабіць свядомы выбар, каб ведалі не трасянку, а тры-чатыры мовы. І тады б нас у свеце было б не 10 млн. , а 30-40 - як у значнай еурапейскай нацыі.

Вывучайце іншыя мовы - гэта вельмі неабходная справа!

Сустрэчы з вядомым дзеячам культуры праляцелі, як адно імгненне.

**Генадзь БУРАЎКІН**

## СЛОВАБЛУДЫ

Іх сустрэнеце вы ўсюды –
Распаўзліся па зямлі
Дэмагогі—словаблуды,
Абяцанак каралі.

—Што,
Мізэрныя зарплаты?
Не хапае ўжо на хлеб?
Гэта крызіс вінаваты.
Трэба меней мець патрэб.
Да таго ж працуем слаба,
Не выкладваемся ўсе.
Мітынгоўшчына таксама
Шкоду значную нясе...

—Што,
Растуць штомесяц цэны,
Задушыў пракляты быт?
Усяму віною гэны
Ненармальны дэфіцыт.
Людзі,
Быццам папуасы,
Ачмурэлі ад віна.
Робяць розныя запасы
Ад цямна і да відна.
А пад нашы «охі», «ахі»
Лезе зноў заморскі спрут,
Раскашуюць алігархі,
Заганяюць нас у кут...

—Што,
Інфляцыя заела,
Надакучылі нулі?
Тут нас,
Мы вам скажам смела,
Фінансісты падвялі.
Абяцалі даць адразу
Грошы кожнай галіне.
Ды не стала раптам газу,
Нафта вырасла ў цане.
Мы на гэты ўціск шалёны
Выпрацоўваем указ.
Хутка новыя мільёны
Надрукуем мы для мас.
Увядзём кантроль суровы,
Спынім рынкавы грабеж
І нарэшце возмем
Новы
Недасягнуты рубеж...

Кожны дзень адно і тое ж –
Дэмагогіі вада.
А ў жыцці –
Хіба ж утоіш?—
За бядою зноў бяда.

І нічога лепш не будзе,
Застанемся мы ні з чым,
Покуль церпім словаблуддзе
І спалохана маўчым...

## ДАРВАЎСЯ

Быў у нашай вёсцы Вася –
Рызыкант і гаварун.
Сіл і спрыту набіраўся
Ён пад звон гітарных струн.

І калі за валасамі
Стаў усё шырэць прабор,
Абзавёўся ён вусамі
І ў палітыку папёр.

Так страсаў ён з вербаў дулі,
Так граміў жабрачы быт,
Што вясковыя бабулі
Ажно плакалі наўзрыд.

На вярхі імкнуўся Вася.
І гавэнда ўслед ішлаб
«Толькі б ён хутчэй дабраўся
Да сапраўднага жазла.

Гэты дасць усім прыкуркі
І парадак навядзе.
Больш дзяржаўныя прыдуркі
Нас не утопяць у бядзе»

І нарэшце адбылося –
Да партфеля ён дайшоў.
Хоць паменела валосся,
Ды паболела вусоў.

Ён гырчыць на ўсіх сурова
Без віны
І без падстаў.
Сыпле грозьбы.
Сыпле словы.
І няма ніякіх спраў.

Стаў прылізаны і гладкі.
Але, як ні паглядзі,
Не мяняюцца парадкі,
Не вылазіць быт з гразі.

Адзінокія бабулі
Плачуць ціханька цяпер:
«Гэта ж так усіх надулі!
Абдурылі як цяцер»

І мянтачаць злосна
Васю
Пасля чаркі мужыкі:
«Што ж вы хочаце?—
Дарваўся.
Ён заўсёды быў такі...»

Заснавальнік: Леанід Гаравы. Рэдактар: Леанід Паўлаў
Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына 30Б-16.
Тэл. 8-239-2-38-42
E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by
Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Распаўсюджваецца бясплатна Наклад 290 асобнікаў